www.nv-online.info

№ 46 (4093)

17 чэрвеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



НАДВОР'Е

## Спёка

У выхадныя ў Беларусі будзе па-летняму горача. Тэмпература паветра ноччу +10...+17°C, па паўднёвым усходзе да +19°C, днём +24...+30°C. Пры гэтым месцамі кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Францішак Скарына заслугоўвае найвялікшай павагі

*Як вядома, у 2017 годзе Беларусь адзначыць адну з найважнейшых дат сваёй гісторыі і культуры – 500-годдзе беларускага кнігадрукавання і беларускай Біблії.*



У сувязі з гэтым вялікая група выбітных асоб краіны (акадэмікі Радзім Гарэцкі, Генадзь Лыч, Міхась Касцюк, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, члены-карэспандэнты НАН Міхась Мушынскі, Станіслаў Шушкевіч, мастак Мікола Купава і многія іншыя) звярнулася з заявамі да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі, у Савет міністраў, Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў і Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт з шэрагам слушных прапаноў. Ёсць меркаванне, што слаўную дату добра было б адзначыць наданнем імя Францішка Скарыны адной з цэнтральных магістраляў (праспектаў беларускай сталіцы). "На наш погляд, – гаворыцца ў адной з заяў, – у праспект Францішка Скарыны маглі б быць аб'яднаны вуліцы Свярдлова і Маякоўскага або Сурганава і Арлоўская. Таксама мог бы разглядацца варыянт аб'яднання вуліц Маскоўскай і Чкалава або вяртання імя Францішка Скарыны галоўнаму праспекту сталіцы Беларусі ад плошчы Незалежнасці і да выезду з горада ў паўночна-ўсходнім напрамку. У гэтым выпадку назву праспекта Незалежнасці магчыма было б надаць вуліцам Маскоўскай і Чкалава да плошчы Незалежнасці".

У звароце да старшыні Савета міністраў А.У.Кабякова вядомыя дзеячы краіны прапануюць:

"– Нацыянальнаму аэрапорту Рэспублікі Беларусь надаць імя Францішка Скарыны і ў далейшым называць яго "Нацыянальны аэрапорт імя Францішка Скарыны". На сённяшні дзень больш за 300 аэрапортаў у свеце носяць імёны найбольш значных для адпаведнай краіны ці рэгіёна асоб. Так, еўрапейскія аэрапорты праслаўляюць імёны Леанарда да Вінчы (Рым), Марка Пола (Венецыя), Хрыстафора Калумба (Генуя), Галілеа Галілея (Піза), Аляксандра Вялікага (два аэрапорты: у Кавале ў Грэцыі і ў Скоп'е ў Рэспубліцы Македонія), Вольфганга Амадэя Моцарта (Зальцбург), Фрыдэрыка Шапэна (Варшава), Мікалая Каперніка (Вроцлаў), Ферэнца Ліста (Будапешт), Шарля дэ Голя (Парыж), Антуана дэ Сэнт-Экзюперы (Ліён) і многіх іншых. На наш погляд, да гэтага сузор'я з годнасцю далучылася б такая вялікая асоба беларускай і еўрапейскай культуры, як Францішак Скарына.

– Ініцыяваць перад урадам Літоўскай Рэспублікі і органамі самакіравання горада Вільні (сёння – Вільнюс) усталяванне сіламі Рэспублікі Беларусь помніка Францішку Скарыну ў цэнтры названага горада.

Свае кнігі ў Вільні Францішак Скарына, ураджэнец горада Полацка, выдаваў у перыяд з 1522-га па 1525 год, стаўшы такім чынам першадрукаром Вільні і Вялікага Княства Літоўскага.

– Ініцыяваць перад урадамі Польшчы, Украіны і Расійскай Федэрацыі і органамі самакіравання гарадоў Кракаў (Польшча), Кіеў (Украіна), Масква (Расійская Федэрацыя) усталяванне сіламі Рэспублікі Беларусь помнікаў Францішку Скарыну ў вышэйназваных гарадах.

Францішак Скарына атрымаў універсітэцкую адукацыю і пачаў шлях да сваёй нацыянальнай і еўрапейскай славы ў старажытным Кракаве. Акрамя таго, ён даў друкаваную кнігу ўсім усходнеславянскім народам: яго дасягненні і здабыткі пазней выкарыстоўваліся выдаўцамі і друкарамі на тэрыторыі сучасных Расіі і Украіны".

Прапаноўваецца таксама абвясціць Беларускім Днём друку 6 жніўня – "беручы пад увагу дату выдання Францішкам Скарынам першай кнігі, у якой ужывалася старабеларуская мова".

Хочацца спадзявацца, што ўлады прыслухаюцца да голасу вялікай групы паважаных навукоўцаў, творчых асоб, грамадскіх дзеячаў і зробяць усё, каб годна адзначыць адну з найважнейшых дат айчыннай гісторыі і культуры – 500-годдзе беларускага кнігадрукавання і беларускай Біблії.

**Сцяпан КАВАЛЬЧУК.**

ЗАПРАШЭННЕ

## Хто атрымае прэмію «За Свабоду думкі»?

*У нядзелю 19 чэрвеня адбудзецца ўрачыстае ўручэнне прэміі «За Свабоду думкі» імя Васіля Быкава, заснаванай рухам «За Свабоду» ў 2007 годзе.*

Прэміяй «За Свабоду думкі» ўзнагароджваюцца асобы, якія праявілі сябе грамадскай і творчай дзейнасцю на карысць Беларусі і Свабоды. Выбітныя беларусы, што сталі лаўрэатамі ў 2008–2015 гадах, увайшлі ў склад журы, якое вызначыла сёлетняга лаўрэата.

Святочная імпрэза адбудзецца ў нядзелю 19 чэрвеня ў 14.00 ля Дома-музея Васіля Быкава ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Для ўдзельнікаў імпрэзы будзе арганізаваны праезд на аўтобусах з Мінска і назад.

На ўрачыстае ўручэнне ўзнагароды запрошаны лаўрэаты, прадстаўнікі дэмакратычнай грамадскасці, медыяў і дыпламатычнага корпусу. Праграма імпрэзы ўключае ўрачыстую частку, уручэнне прэміі і святочны канцэрт.

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

## Конрад ПАЎЛІК: «За год мы выдалі 400 тысяч віз, спадзяюся, далей будзе яшчэ больш…»

Такую інфармацыю агучыў пазаўчора на прэс-канферэнцыі амбасадар Польшчы ў Беларусі **Конрад Паўлік.**

Ён таксама паведаміў, што за дзевяць гадоў "Карту паляка" атрымалі амаль 75 тысяч беларусаў.

Спадар Конрад Паўлік пагадзіўся даць эксклюзіўнае інтэрв'ю "Народнай Волі", якое будзе надрукавана ў адным з бліжэйшых нумароў.

ЧУЛІ?

## Арыштаваны Генадзь Гаспадарык



Праваахоўнымі органамі Беларусі затрыманы першы намеснік старшыні праўлення найбуйнейшага банка краіны – "Беларусбанка" Генадзь Гаспадарык.

Паводле інфармацыі банкаўскіх служачых, Гаспадарык быў арыштаваны ў сваім кабінеце падчас атрымання хабару ў суме 14 тысяч долараў.

***

Генадзь Гаспадарык нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Нялепава Нясвіжскага раёна. Скончыў Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут, БДЭУ. Працоўны шлях пачынаў у 1981 годзе майстрам Першамайскай ПМК-13 аб'яднання «Смаленскмеліярацыя».

У банкаўскую сістэму прыйшоў пасля службы ў Савецкай арміі.

У 1994–1997 гадах – старшыня праўлення АКБ «Белчыгункабанк». У 1997-м прызначаны начальнікам Мінскага гарадскога ўпраўлення, а з 2002 года – намеснік старшыні праўлення "Беларусбанка". Праз 10 гадоў стаў першым намеснікам старшыні праўлення "Беларусбанка".

ГАЗЕТА–ЧЫТАЧЫ

## Будзем разам і ў другой палове 2016 года!

*10 дзён застаецца да заканчэння падпіскі на другую палову 2016 года. Не спазніцеся, калі ласка. У чарговы раз хочацца паўтарыць:*

*Калі жадаеш лепшай долі –*
*Дапамажы **"НАРОДНАЙ ВОЛІ"**.*
*У свеце **ПРАЎДЫ** жыць імкніся,*
*І на газету падпішыся!*




А яшчэ добра было б, калі б тыя, хто моцна стаіць на нагах, дапамаглі падпісацца людзям бедным, абяздоленым.

Дарэчы, нагадваем: падпісны квіток можа стаць і падарункам-сюрпрызам, калі Вы накіроўваецеся да некага ў госці ці хочаце павіншаваць чалавека з днём народзінаў, іншай святочнай датай.

Адным словам, Вас чакаюць у любым паштовым аддзяленні ці спецыялізаваным пункце "Белсаюздруку".

**Хто – з «Народнай Воляй», з тым – і «Народная Воля»!**

ПО ПОВОДУ



Мария ЭЙСМОНТ

# За чужой счет

Пусть в меня кто-то бросит камень, но, как говорится, наболело.

Вот наблюдаю я такую картину в своем дачном товариществе. Сломался глубинный насос, подающий воду из скважины в систему водопровода. Все участки остались без воды. Сезон начался, посадки, прополки, а воды в трубах нет. И денег на счету, чтобы отремонтировать или заменить агрегат, тоже нет. Поселок – как наша страна: тут заткнул – там прорвало, на все средств не хватает. В общем, правление объявило сбор денег, 350 тысяч с участка. Дачники поохали, повздыхали, но рублики в кассу понесли. Насос отремонтировали, воду дали. Но оказалось, что деньги сдали далеко не все члены садового товарищества. И те, кто не заплатил за удовольствие пользоваться водопроводной водой, не торопятся вносить свои кровные в общее дело. А зачем? Ведь течет вода в трубах! А то, что сосед заплатил, а я – нет, так это, как говорится, его проблема. Он остался в дураках, не я.

Наблюдаю эту картину и думаю: ну когда уже жизнь на халяву перестанет быть нашей национальной чертой? Когда наконец нашим людям станет стыдно жить за чужой счет? «Не буду сдавать деньги на ремонт дороги, – говорит сосед, вываливающийся из дорогого джипа. – На своей машине я и по ямам проеду». Цена вопроса – 100 тысяч. Но он их зажал, смешно сказать, сэкономил. И каждый день ездит по слегка отутюженной грейдером дороге, на которую сбросились другие соседи. И не краснеет. И не стыдно ему. И ладно бы он один такой, так ведь больше половины дачников ведут себя так же.

Психологи объясняют подобное поведение белорусов советским наследием. В нашем обществе до сих пор сильны иждивенческие настроения, людей устраивает ситуация, когда государство дает им какую-никакую работу, за которую платит какие-никакие деньги, когда можно получить какое-никакое, но бесплатное медобслуживание и какое-никакое образование. Они понимают, что многое в этой системе распределения несправедливо, но вместо того, чтобы попытаться ее изменить, компенсируют свою нищенскую зарплату, пенсию, на которую не проживешь, таким вот поведением – не заплатить, схалявить, стащить.

Мы сами не заметили, как эта заразительная привычка обмануть и своровать что-то у государства перекочевала в нашу повседневную жизнь. Тащим и обманываем соседа, подчиненного, даже родственников.

Я думаю, что большинство понимает, что поступает некрасиво, даже подло, поэтому и придумывают вот такие нелепые отговорки, как мой сосед на джипе. Будто он не ездит на нем, а летает, парит над ямами. Более изощренные потребители ведут себя по принципу «лучшая защита – это нападение» и, например, в ответ на просьбу сдать деньги за отремонтированный насос, начинают выдвигать версии: «А не много ли денег потребовало правление? А не положили ли часть из них себе в карман?» То есть тех, кто ратует за общее дело, не сидит сложа руки, а что-то делает, пытаются еще выставить едва ли не преступниками.

Дачные кооперативы – это наша страна в миниатюре. Где все колхозное, а значит, ничье. Но при этом мы хотим ездить по хорошим дорогам, иметь воду в водопроводе. Все это должно присутствовать в нашей жизни – только за чужой счет. Но так не бывает – не прилетит вдруг волшебник и бесплатно нам все это не даст.

Как не даст нам и другую страну, и другую власть.

Проще ведь обвинять эту власть в большей части белорусских проблем и при этом ничего не делать. Выборы у нас нечестные и несправедливые – так пусть оппозиция добивается изменений в избирательное законодательство. Зарплаты небольшие – потерпим, переждем. Нас возмущают бессмысленные траты бюджетных денег на дворцы, рождественские турниры, всебелорусские собрания и т.д. и т.п. – но что мы можем, если от нас ничего не зависит.

Проще надеть маску жертвы и не пытаться что-то изменить в стране и прежде всего – в себе. Быть жертвой – это хитрая уловка, чтобы оправдывать свою безынициативность, безучастность, свое желание что-то получить за чужой счет. Такой легкий способ обхитрить, обмануть окружающих.

Знакомый психолог считает, что белорусам в такой системе координат еще долго жить. «Потому что необходимо перепрограммировать целый народ – настроить его на успех, внушить ему веру в себя, в свои силы, воспитать в нем ответственность за свою судьбу и свою страну, научить его любить и уважать себя», – говорит она. Только нынешней власти это не надо. А народ сам не хочет. Так оно, видимо, проще.

Но ведь чужой счет тоже когда-то может закончиться…

